# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Застрэліуся** беларускі артыст Ромуальд Жакоускі. Страціу ен жыцьце самагубствам з прычын голаладу. Нябошчык меу усяго толькі 22 гады.

**Зьезд жыдоускіх абшчын Беларусі** мае быць скліканы у хуткім часе у Менску. Зьезд будзе разглядаць пытаньні політычнага і эканамічнага характару, а так—сама унутраны лад жыдоускага жыцьця і школы. Цяпер ідуць далей выбары у абшчыны у мясцох, вызваленых цяпер ад бальшавікоу. Выбары робяцца на дэмократычных асновах. Усюды на першым месьце праходзяць прадстаунікі жыдоускай дробнай буржуазіі, або сыяністы.

**Конфлікт**, каторы вышау паміж абшчынай і настаунікамі з прычын вымаганьня выкладаньня у школах па гэбрайску цяпер уладжаны. Усе настаунікі астаулены на сваіх мясцох. У пэдагогічные рады уведзены прадстаунікі культурнай сэкцыі абшчыны.

**Мясцовые коопэратывы** закупілі шмат таварау у Варшаве і Данцыгу. Тавары гэтые—глауным чынам бакалея і харчы хутка будуць дастаулены у Менск.

У многіх коопэратывах хлеб штодня прадаецца ніжэй рынычных цэн.

Коопэратыу чыгуншчыкау адтрымау вялікіе партыі бакалейных і галянтарэйных таварау, якіе ужэ прадаюцца.

У хуткім часе у Менску адбудзецца рад лекцыяу па пытаньням коопэрацыі. Лекцыі організуюцца саюзам жыдоускіх коопэратывау. Лектарам запрошаны вядомы эконаміст д-р Гурвіч.

**Сярод менскіх рамесьнікау** абгаварваецца цяпер пытаньне аб паляпшэньні іх матэрыяльнага становішча і аб організацыі рамесьнікау у справе змаганьня з безрабоціцай.

На адным з апошніх сходау рамесьнікау рашылі у самым хуткім часе пачаць чыннасьць пазычкова—спажыунай касы. Рашылі так-сама пачаць організацыю грамадзкіх работ, выдаваць сырца, грашавых субсыдый і г. д. У першую чаргу будуць організованы пераплетчыкі і сталяры.

**Саюз прамысьнікау Беларусі** пачынае у хуткім часе свае дзеі у Менску і гарадох округу. Саюз гэты ставіць сабе мэтаю злучыць сіх прамысьнікау Беларусі, дзеле абароны іх інтарэсау і падняцьця прамысловасьці у Беларусі. У многіх мясцох саюз возьме у свае рукі тые ці іншые прадпрыімствы, якіе па розным варункам ня могуць функцыянаваць.

**У менскай падатной інспэкцыі** цяпер ідзець работа па выяуленьню прыбыткау асоб, якіе належаць абляжэньню за 1918 г.

**Сярод арэндатарау.** На землях царк.—манастырскіх, зыскі недаімак судзебна-адміністрацыйным парадкам спынены на невядомы час.

**Сярод чыгуншчыкау.** Істнуючы контынгэнт чыгуншчыкау да новага году будзе павялічаны безработнымі на 30%.

**У саюзе дамауласьнікау** паднята пытаньне аб організацыі ночнай варты.

**Цукер** (пясок) у прыватнай продажы даходзіць да 22 р. фунт.

**Польскі тэатр.** У чацьвер будзе пастаулена у другі раз пьеса „Справа Кайзэра". Гэта вясёлы фарс, каторы так спадабауся публіцы у нядзелю. У суботу будзе пастаулена у першы раз пьеса Ст. Керджынскага „Трыбунал рэволюцыі" або „Менская чрэзвычайка".

**Цэнтральны саюз злучаных коопэратывау** пачау выдаваць дровы сваім членам, якіе заранеу унесьлі задаткі, па 1000 р. за сажань.

**Польская валюта** з адчыненьнем польскай краевай касы (праз тры дні) мае быць цьверда угрунтована. Мажліва, што патроху усе пяройдзе на польскую валюту.

**У рабочым доме** апошнімі днямі адбыуся рад дакладау мясцовых дзеячоу па розным пытаньням профэсыянальнага руху. Пры дакладах знаходзіцца вялікі лік слухачоу—рабочых.

**Т-во пашырэньня польскай прамысловасьці і гандлю**, нядауна з'організованнае, прыняло актыуные меры дзеле дастаукі краю, а, глауным чынам, Менску прадуктау першай патрэбы самым сьпешным чынам.

**Грабежствы і напады** апошнімі днямі прынялі эпідэмічны характар. Грабаунікі урываюцца у магазіны і бяруць усе, што ім падабаецца. Так сама робяць з вулічнымі гандлярамі, у каторых забіраюць папіросы і яблыкі. Некаторых бьюць. На вуліцах, у цэнтры і глауным чынам на акраінах, у вечары, а часам і удзень астанауліваюць людзей і зьнімаюць з іх футры, пярсьценкі. Былі выпадкі, калі у цэнтры гораду зьнялі каракулевые пальто у кабет. Сярод насяленьня у апошніе дні дзеля гэтага пануе сільны непакой. Кватэры з вечара наглуха запіраюцца.

## Ліст у Рэдакцыю.

### „Беларускі тэатр".

Пад гэтакім загалоукам у „Беларусі" № 34 зьявілася заметка аб тым, што у Менск прыбыу п. Аляхновіч, якому даручана організаваць Беларускі тэатр. Далей гаворыцца: „пакуль наладзіцца спэктакль запрауднага тэатру менская публіка будзе карыстацца спэктаклямі таварыства мастацтва. А я адзначаю, што публіка будзе карыстацца спэктаклямі т-ва працаунікоу мастацтва увесь час як і карысталася дагэтуль. Ня думаю каб „запрауднэы" тэатр перашкаджау істнаваць т-ву і наадварот.

Т-во мае зусім іншые мэты, чым-сь які-б там ня быу запрауднэы тэатр.

Т-во пр-коу бел. мастацтва яшчэ зусім маладое, працуе у вельмі дрэнных варунках і апрача таго спатыкае перашкоды на кожным кроку. Але я веру, што маладые прац-кі бел. мастацтва ня гледзячы на усе перашкоды будуць працаваць і далей, прылучаючы да сябе усе новых і новых мастакоу-беларусау, і моцна згуртавауршыся нават ідучы цярністым шляхам, выпауняць свае заданьне—дайдуць да праудзівага мастацтва.

Сябра Т-ва М. К.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



З дазв. вайсков. цэнзуры № 37, 2/XII.

Менск. Друкарня Інвалідау.